# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

**Гамлетаўскае пытанне стаіць перад намі, беларусамі, — зможам мы і далей жыць на гэтай зямлі ці згінем?** *(Старонка 2)*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 66 (1131)

Аўторак, 10 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля





## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. Па заходняй палове кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — +9...+11, Брэсце — +11...+13, Мінску — +16...+18, Віцебску, Магілёве — +17...+19, Гомелі — +18...+20.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, па паўночным захадзе, а ў дзень 12-га — на значнай частцы тэрыторыі — дажджы. Вецер паўднёвы з пераходам на паўночна-заходні, 4—9 м/с, 12-га парывы да 14. Тэмпература паветра ўначы — +3...+8, удзень — +10...+15, 11-га на паўднёвым усходзе да +20.



## НАВІНЫ

### Ліст Гайдукевіча да "саюзніка" Пуціна

**Адзін з прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта Беларусі, лідэр Ліберальна-дэмакратычнай партыі і рэспубліканскага аргкамітэта грамадска-палітычнага блока "Новая Беларусь — Адзінства" Сяргей Гайдукевіч накіраваў адкрыты ліст прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну.**

"На працягу многіх гадоў расійскай палітычнай эліце афіцыйнымі прадстаўнікамі цяперашніх улад фарміраваўся вобраз беларускіх дэмакратаў і ў цэлым апазіцыі як зацятых ворагаў Расіі, інтэграцыі і супрацоўніцтва з Вамі, — піша Сяргей Гайдукевіч. — Нельга ставіць знак роўнасці з невялікай групай радыкальна настроеных элементаў, якія ёсць у любой краіне і, як правіла, не маюць уплывовай сацыяльнай базы. Гэта не проста хлусня, а свядомая дэзінфармацыя палітычнага кіраўніцтва саюзнай Расійскай Федэрацыі, у тым ліку і з нагоды выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, вынікі якіх не прызнала сусветнае супольніцтва. Сёння — нелегітымны парламент, заўтра — нелегітымны прэзідэнт, а ў канчатковым выніку — пад пытаннем легітымнасць і самой беларускай дзяржавы". Аўтар ліста выказвае ўпэўненасць, што Уладзіміру Пуціну "як саюзніку неабыякава такое развіццё падзей".

Сяргей Гайдукевіч таксама інфармуе расійскага прэзідэнта аб фактах, з якіх бачна, што маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары ў Беларусі будуць недэмакратычнымі і несвабоднымі. Сярод такіх фактаў — адмаўленне ўлад прадаставіць блоку "Новая Беларусь — Адзінства" Палац Рэспублікі для правядзення 26 мая Кангрэса народаў Беларусі, у той час як гэты ж палац прадастаўляецца для правядзення 18 мая Усебеларускага сходу, склікаемага Лукашэнкам.

"Па ўсіх прыкметах справа ідзе да таго, што ў такіх "роўных" умовах патэнцыяльным кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ёсць сэнс адмовіцца ад удзелу ў гэтым фарсе. І спадару Лукашэнку будзе прадастаўлена поўная магчымасць выбіраць самога сябе", — падсумоўвае Сяргей Гайдукевіч.

**Наталля КУЛАГІНА.**

### Турэцкія бізнесмены ўступілі ў саюз

**Некалькі турэцкіх бізнесменаў, якія працуюць у Беларусі, выказалі жаданне ўступіць у Мінскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і работадаўцаў (МССПіР), а таксама створаны пры ім Сталічны дзелавы клуб.**

Як паведаміў БелаПАН прэзідэнт МССПіР Уладзімір Карагін, партнёрства з прадпрымальніцкім саюзам дазволіць турэцкім бізнесменам атрымаць доступ да неабходнай інфармацыі, браць удзел у эканамічных семінарах, праводзімых гэтай арганізацыяй для сваіх членаў, і ў канчатковым выніку дапаможа пазбегнуць тыповых памылак, якія дапускаюць замежныя бізнесмены ў Беларусі.

Па словах Карагіна, пасяджэнне клуба з удзелам замежных дыпламатаў і бізнесменаў праходзіла ўпершыню, а выбар краіны абумоўлены актыўнасцю турэцкага бізнесу ў Беларусі. Пасол Турцыі ў Беларусі Шуле Сайсал азнаёміла беларускіх удзельнікаў пасяджэння з прыярытэтамі эканамічнай палітыкі сваёй краіны, прадставіла агляд інвестыцыйных праектаў, рэалізуемых турэцкім бізнесам на знешніх рынках. Кіраўніцтву МССПіР быў перададзены пералік прапаноў турэцкіх экспарцёраў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

### "Чарнобыльскі шлях-2001"

**На чарговым пасяджэнні аргкамітэта па правядзенні "Чарнобыльскага шляху-2001" была распрацавана канцэпцыя правядзення 26 красавіка ў Мінску мерапрыемстваў, прысвечаных 15-й гадавіне чарнобыльскай катастрофы.**

Сёлета традыцыйныя мерапрыемствы будуць адрозніваацца ад тых, што праводзіліся раней. Збор удзельнікаў акцыі вырашана правесці на плошчы Свабоды а 17-й гадзіне. Там жа, перад пачаткам шэсця, адбудзецца малебен у памяць ахвяр чарнобыльскай катастрофы. Затым адбудзецца шэсце да плошчы Незалежнасці, дзе ўладам плануецца ўручыць петыцыю. Цяперашні "Чарнобыльскі шлях" пройдзе пад лозунгам: "За Беларусь — дзеля Будучага!".

На пасяджэнні аргкамітэта падкрэслівалася неабходнасць згуртавання дэмакратычных сіл для пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы. З гэтай нагоды вырашана стварыць групу па падрыхтоўцы праграм, скіраваных на мінімізацыю і пераадоленне наступстваў аварыі на ЧАЭС. Плануецца, што ў ствараемы Камітэт па праблемах Чарнобыля ўвойдуць вядучыя беларускія вучоныя і грамадскія дзеячы. Кіраваць працай па стварэнні камітэта даручана члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Івану Нікітчанку.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

# Второй президент. Кто он?

## Размышления пессимиста

По долгу службы я бываю в разных уголках Беларуси — на заводах и фабриках, в колхозах, в учебных заведениях и т.д. При любом удобном случае провожу опрос на тему: кто будет вторым президентом Республики Беларусь? Лично вы за кого будете голосовать?

90 человек из 100 сказали вполне определенно: будут голосовать против Лукашенко. Остальные отвечали примерно так: если не Лукашенко, то кто? Они не знают, что в 10-миллионной стране есть весьма достойные, толковые, грамотные люди.

Таким образом, я смею предположить, что во время президентских выборов Лукашенко наберет 10, максимум 15 процентов голосов.

Своими размышлениями и прогнозами на эту тему я поделился с одним известным политиком.

— Да, действительно, Лукашенко получит около 15 процентов голосов, но это ничего не значит. На второй день после выборов объявят о его полной победе — 75 процентов за Лукашенко. И на весь мир он будет греметь о всенародной любви. И никто никому ничего не докажет, что цифра дутая. Почему? Да потому, что главные чиновники в Доме правительства, в Генеральной прокуратуре, МВД, КГБ, Конституционном суде, Центризбиркоме, облисполкомах, райисполкомах и т.д. будут сидеть в своих мягких креслах до тех пор, пока Лукашенко у руля. Слетит он со своего трона — слетят и они. Это они отлично знают и потому пойдут на любой обман, лишь бы не лишиться собственных благ.

Надежда на наблюдателей? Весьма сомнительно. Во-первых, возле каждой урны за неделю не поставишь наблюдателя, да и власть не допустит этого. Во-вторых, выйдет наблюдатель на пять минут, извините, в туалет, и за это время можно провернуть любую махинацию. Опыт есть, это показали выборы в так называемую палату №2.

Таков мой прогноз, очень пессимистический, но так оно и будет. И не будет никакого просвета у людей, Беларусь все глубже и глубже будет погружаться в болото. Подумать только — по воле одного (!) человека.

*Как это будет? Мрачный прогноз.*

*Я решил смоделировать ситуацию, которая произойдет на второй день президентских выборов. И вот что из этого получилось. Читайте.*

Несколько часов тому назад выборы завершились. Ночью во всех уголках страны шел подсчет голосов. Президент не спал. Чем ближе к рассвету, тем сильнее нарастала тревога: каковы будут результаты, кто победит — он или его соперник?

Кажется, он сделал все возможное для своей победы. Старикам-пенсионерам добавил немножко денег. Это "немножко" было равно кусочку колбасы "на один зуб". На них, пенсионеров, он возлагал большие надежды. Они, как дети, верят каждому его слову.

Перед телекамерами он почти ежедневно распекал, унижал, снимал с должностей своих министров и прочих крупных начальников, чем несказанно радовал многих простых людей. Они видели: он один работает, все остальные — бездари, никчемные чинуши.

Он устраивал по поводу и чаще без повода массу всяческих праздников. Водка лилась рекой. Это тоже радовало сердца и согревало души очень многих.

Еще он очень надеялся на помощь "губернаторов". Открыто, без дипломатических выкрутасов каждому из них он откровенно сказал: если в твоем княжестве победит мой соперник, то ты мгновенно лишаешься своего кресла. Предельно ясно и четко. "Губернаторы" в свою очередь провели такие беседы со своими районными князьками.

Угрозы в случае провала и щедрые обещания всяческих благ в случае победы прокатились от края до края страны.



*Этого пока нет. Это может быть. Не дай Бог...*

Но, пожалуй, самую главную надежду он возлагал на телевидение. Оно, родное и абсолютно послушное, ежедневно твердило одну идею, било в одну точку: *лучше и мудрее* нынешнего президента нет и никогда не будет. Он бесконечно любит свой народ, день и ночь думает о его благе, всячески заботится о нем. И какие успехи везде и во всем! Какая стабильность! Какой рост зарплаты! Но никто с экрана не сказал о том, что государство добавляет тысячу и тут же отнимает две, ибо цены на все и вся растут ежедневно.

Итак, наступило утро. Время шло, но почему-то не было звонка от председателя Центризбиркома. Президенту это показалось дурным знаком. Неужели провал? С каждой минутой нарастало тревожное состояние, и он сам позвонил, хотя первой должна звонить *ОНА*.

Стараясь сохранить в голосе спокойствие, он первым делом поинтересовался ее самочувствием, имея в виду то, что всю ночь *ОНА* была на посту.

— Господин президент, мы только что закончили подсчет голосов, и через минуту-другую я собиралась звонить вам. Не лучше ли мне приехать к вам?

— Докладывайте сейчас. Мой телефон, как вы понимаете, никем не прослушивается. Каковы результаты?

— Полный провал, господин президент. Вы набрали всего 14 процентов. За ваши заботы народ ответил черной неблагодарностью.

— А мой соперник? Сколько у него?

— 70 процентов, — еле выдавила *ОНА*.

В ее голосе — тоска, горечь, сожаление. *ОНА* понимала, что лишается своей должности, мягкого кресла и многих благ. Дальше — полный мрак. Ей, разумеется, припомнят все фокусы на парламентских выборах.

После минутной паузы *ОНА* услышала уверенный голос президента.

— Знаете ли вы, что сказал Сталин после голосования на 17-м партийном съезде?

— Нет, не знаю, господин президент.

— Слушайте внимательно. Он сказал: "Совершенно не важно как они проголосовали, очень важно, как будут подсчитаны голоса". Тогда против Кирова было 2 голоса, против Сталина — больше сотни. Делегатам съезда объявили: против Сталина и Кирова по два голоса.

Делайте выводы. Срочно собирайте прессу, сообщите результаты. Мои проценты и моего соперника поменяйте местами. Будут недовольные, будут злопыхатели, будут крикуны, но мы их поставим на место. Опыт у нас есть. Лично вы за свои труды будете достойно награждены.

**Николай АЛЕКСЕЙЧЕНКО.**

## СКАНДАЛ

### Бунт гімнастак

Беларуская каманда па мастацкай гімнастыцы, якая заваявала срэбраныя медалі на Алімпіядзе ў Сіднеі, у поўным складзе адмаўляецца ад далейшых выступленняў.

Алімпійскія прызёркі катэгарычна адмаўляюцца супрацоўнічаць са сваім трэнерам Ірынай Ляпарскай.

З гэтай нагоды трэнер гімнастак на днях ладзіць прэс-канферэнцыю.

Чым скончыцца скандал — чытайце ў бліжэйшых нумарах "Народнай волі".

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## ОБРАЩЕНИЕ

### Осознаете ли ВЫ свою ответственность, уважаемые претенденты?

Главным вопросом предстоящих выборов является вопрос об изменении режима власти, о жестком разграничении власти президента, парламента и правительства, о гарантии реальной независимости судебной власти и свободе средств массовой информации, о переводе страны на путь реформ и процветания. Эта судьбоносная для белорусского народа цель способна стать фундаментом для образования широкой гражданской коалиции, противостоящей режиму авторитарной власти. Перед этой целью меркнут все другие — в силу их, в исторической перспективе, малозначительности для судьбы белорусского народа. **Только широкая коалиция способна убедить граждан страны в наличии реальной альтернативной программы развития и команды, способной реализовать эту программу. Только в условиях мобилизации всех патриотических сил есть шанс не допустить фальсификацию волеизъявления избирателей, защитить результаты всенародного голосования.**

Нельзя недооценивать тоталитарную сущность режима, его административные ресурсы, огромные возможности манипулирования общественным сознанием и фальсификаций. Для тоталитарного режима вопрос собственной легитимности в глазах цивилизованного мира несравнимо менее важен, чем отстранение от власти. Очевидно, альтернативный кандидат имеет шанс лишь в первом туре. В случае второго тура власть с помощью административного ресурса и силовых структур обеспечит "победу" г-на Лукашенко.

Важнейшую роль в этот предвыборный период призваны сыграть общественные деятели, готовые взять на себя главную ответственность за вывод страны из кризиса, — Владимир Гончарик, Павел Козловский, Семен Домаш, Михаил Чигирь, Сергей Калякин и другие. Идя навстречу их пожеланиям, основные политические партии заняли выжидательную позицию, уступили им место на политическом поле. Поэтому сегодня претенденты на президентский пост несут перед белорусским народом персональную ответственность за то, чтобы шанс возврата страны к демократии и подлинному народовластию из-за недооценки ситуации и личных амбиций не был упущен.

**Демократическая элита ждет, что кандидаты в президенты проявят инициативу по созданию широкой предвыборной коалиции, в которую бы вошли все патриотические силы страны. Что они объявят о создании единой президентской команды и определятся с единым лидером. Что они инициируют создание Координационного предвыборного центра, в составе которого, помимо их уполномоченных, были бы представлены все политические партии и общественные организации гражданского общества. Что они обнародуют взаимосогласованную предвыборную платформу и доведут ее до народа страны.**

Широкие слои белорусской общественности ждут от Вас, уважаемые претенденты, гражданской ответственности и готовы к поддержке Ваших договоренностей и инициатив.

Время не ждет.

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ, Георгий ТАРАЗЕВИЧ, Павел ЗНАВЕЦ, Леонид ЗАИКО, Василий ШЛЫНДИКОВ, Лариса ШУТКО, Михаил ПАСТУХОВ и другие.**

# Дзверы могуць зачыніцца

*Міжнародная арганізацыя працы і сусветныя прафсаюзныя аб'яднанні папярэджваюць кіраўніцтва нашай краіны аб сур'ёзных наступствах, калі ўлады не спыняць парушэнне правоў чалавека*

Незвычайны форум адбыўся ў Мінску — рэспубліканскі сход прадстаўнікоў вядучых прафсаюзных арганізацый краіны. На яго прыехалі таксама лідэры самых уплывовых прафсаюзных арганізацый свету і Еўропы, дзеячы з Германіі, Францыі, Расіі, Польшчы, Швецыі, Малдовы, Украіны, Бельгіі. Словам, больш за трыццаць прадстаўнікоў зарубежных прафсаюзных арганізацый і аб'яднанняў.

Сход абмеркаваў рашэнне камітэта Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) па Беларусі ў сувязі з парушэннем тут правоў прафсаюзаў. Генеральны сакратар Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў, якая аб'ядноўвае 156 мільёнаў працоўных, спадар Біл Джордан заўважыў, што да думкі яго арганізацыі ўважліва прыслухоўваюцца ва ўсім свеце. Так, калі Расія падала заяўку на атрыманне больш спрыяльных умоў у гандлі, Еўрапейская камісія адразу звярнулася ў Міжнародную канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў з просьбай даць інфармацыю аб стане правоў чалавека ў краіне. З такімі просьбамі сюды звяртаюцца Сусветны банк, Валютны фонд... А вось улады Беларусі чамусьці глухія да яе парад. Спадар Джордан нагадаў, што летась ён быў у Беларусі, сустракаўся з прадстаўнікамі ўрада і адміністрацыі прэзідэнта, выказаў свае рэкамендацыі. Ён спадзяваўся, што пасля гэтага тут, нарэшце, пачнуцца змены да лепшага. Замест гэтага ўлады працягваюць парушаць правы прафсаюзаў, умешвацца ў іх унутраныя справы.

Больш таго, яны проста ўводзяць у зман сусветную грамадскасць. Біл Джордан з сумам заначыў: на жаль, іх словы, сказаныя ў Жэневе пры абмеркаванні беларускага пытання ў камітэце МАП, не адпавядаюць практыцы, якая існуе ў краіне. У той час, калі ў Жэневе намеснік міністра гаварыў аб тым, што ўрад Беларусі гатоў выконваць рэкамендацыі МАП, міністр прамысловасці краіны аказваў даўленне на прафсаюзы некаторых прадпрыемстваў з тым, каб яны выходзілі з ФПБ і ўступалі ў так званыя жоўтыя прафсаюзы, падкантрольныя кіраўнікам заводаў.

Трэба заўважыць, што падобнага нахабства ў цывілізаваным свеце даўно не церпяць. На сходзе прагучаў сігнал для Беларусі: калі яе ўлады не прыслухаюцца да рэкамендацый МАП, дык краіне пагражае эканамічная ізаляцыя.

Пакуль жа дзверы адкрыты, МАП і вядучыя прафцэнтры даюць ураду Беларусі яшчэ адзін шанц. Пры гэтым яны растлумачваюць, што рост эканомікі і дабрабыту народа немагчымы без свабоды выбару, свабоды прафсаюзаў, СМІ, судовай сістэмы, без павагі да правоў чалавека. Аб гэтым сведчыць вопыт вядучых краін Еўропы і свету.

Старшыня Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі Міхаіл Шмакаў зазначыў, што яго арганізацыя моцна занепакоена бясконцымі нападкамі беларускіх улад на прафсаюзных лідэраў краіны, парушэннем тут правоў прафсаюзаў. Пры гэтым госць з Масквы падкрэсліў: "Усё, што адбываецца ў Беларусі, для нас мае выключна важнае значэнне, таму што вельмі хутка тутэйшыя метады пераносяцца на расійскую глебу, на глебу другіх краін СНД. Яны, як зараза, як яшчур, узнікнуўшы ў адным месцы, з маланкавай хуткасцю распаўсюджваюцца ў іншыя". Далей ён прывёў факты наступлення на правы прафсаюзаў і ў Расіі і дадаў, што зараз у яго краіне ідзе дыскусія аб кодэксе законаў аб працы. Дык вось, многія работадаўцы і прадстаўнікі ўлады імкнуцца прапіхнуць у яго тыя нормы, ад якіх Расія адмовілася сто гадоў таму.

Член камітэта па свабодзе асацыяцый Міжнароднай арганізацыі працы, намеснік старшыні аб'яднання нямецкіх прафсаюзаў Урсула Энгелен-Кэфер, іншыя замежныя выступоўцы зазначалі, што яны ўважліва будуць сачыць за працэсамі ў Беларусі і не пакінуць сваіх "беларускіх братоў і сясцёр" сам-насам з беларускімі ўладамі.

Сход прыняў рэзалюцыю, у якой выказаў патрабаванне пакласці канец грубаму ўмяшальніцтву улад у справы прафсаюзаў.

Ці прыслухаецца кіраўніцтва краіны да гэтага голасу? Стане яно, нарэшце, на шлях нармальнага дэмакратычнага развіцця ці распачне яшчэ адну нікому не патрэбную бітву з чарговым ворагам — ужо сусветным прафсаюзным рухам? Час адумацца яшчэ ёсць.

**Алесь ДРАБЧУК.**

Народная Воля

10 КРАСАВІКА 2001 г.

НАВІНЫ

## Грамадзянская авіяцыя ў 2001—2005 гадах

**Савет міністраў ухваліў праграму развіцця грамадзянскай авіяцыі на 2001—2005 гады, распрацаваную Дзяржаўным камітэтам па авіяцыі Рэспублікі Беларусь.**

У якасці асноўных задач развіцця галіны ў дакуменце вызначаны пашырэнне аб'ёмаў вытворчасці авіяперавозак, нарошчванне экспарту паслуг, забеспячэнне бяспекі палётаў паветраных суднаў і рэнтабельнасці авіяпрадпрыемстваў. Прадугледжваецца таксама пашырэнне прымянення авіяцыі ў народнай гаспадарцы краіны, абнаўленне парку паветраных суднаў, аднаўленне эканамічна абгрунтаваных рэгулярных палётаў на мясцовых авіялініях, выкарыстанне патэнцыялу свабодных эканамічных зон у развіцці аэрапортаў.

Летась на беларускія авіякампаніі прыпалі 74 працэнты ад агульнай колькасці перавезеных пасажыраў, у той час як на замежныя — 26 працэнтаў. Па паветраных трасах Беларусі былі абслужаны 82.894 паветраныя судны 613 авіякампаній з 72 дзяржаў. Гэта на 4,7 працэнта больш за паказчык 1999 года. У аэрапортах краіны былі абслужаны 5474 рэйсы, у асноўным (64 працэнты) беларускіх авіякампаній. Выручка ад рэалізацыі ўсіх відаў паслуг у цэлым па Дзяржкамавіяцыі склала больш за 71 мільярд рублёў.

Асноўнай крыніцай фінансавання ў праграме вызначаны ўласныя сродкі прадпрыемстваў. Дэфіцыт у памеры 28 мільярдаў рублёў плануецца пакрыць за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Турысцкія маршруты Брэстчыны

**Абласная праграма развіцця турызму на перыяд да 2005 года, прынятая ў канцы сакавіка Брэсцкім аблвыканкамам, мае на мэце развіццё турысцкіх маршрутаў па памятных месцах Брэстчыны.**

Зараз у вобласці працуюць 54 турыстычныя прадпрыемствы, з якіх тры — дзяржаўныя, два — прафсаюзныя, астатнія — прыватныя. У 2000 годзе яны аказалі паслуг на 2 мільярды 600 мільёнаў рублёў — гэта ў два разы больш, чым у 1999-м. Ільвіную долю прыбыткаў прынёс выязны турызм. Абласная праграма развіцця турызму была прынята для таго, каб прыцягнуць турыстаў на Брэстчыну.

Нядаўна створаны каардынацыйны савет па турызме распрацаваў і зацвердзіў 12 турыстычных маршрутаў па трох напрамках (паўночным, цэнтральным і паўднёвым). Некаторыя з іх вядомыя даўно і карыстаюцца папулярнасцю, а некаторыя знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі. Гэтыя маршруты ўключаюць у сябе ўсе славутыя мясціны Брэстчыны. У перспектыве плануецца адкрыць турыстычны інфармацыйны цэнтр, які зоймецца рэкламай магчымасцяў Брэсцкай вобласці для прыцягнення замежных турыстаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## "Хімвалакно" і "Белшына" працуюць горш

**Паводле аператыўнай інфармацыі, у першым квартале 2001 года прамысловасць Магілёўскай вобласці выпусціла тавараў на 6 працэнтаў менш, чым за тры першыя месяцы 2000 года.**

Падзенне аб'ёмаў вытворчасці тлумачыцца перш за ўсё зніжэннем выпуску прадукцыі прадпрыемствамі хімічнай і нафтахімічнай галіны — аб'яднаннем "Хімвалакно" (97,2 працэнта да адпаведнага перыяду 2000 года) і "Белшынай" (67,5 працэнта). Сярод буйных прадпрыемстваў вобласці, якія дапусцілі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, таксама ААТ "Фандок", Магілёўскі мясакамбінат, ААТ "Магілёўскі металургічны завод", прадпрыемствы аб'яднання "Хлебапрадукт".

Для паляпшэння сітуацыі ў прамысловасці вобласці аблвыканкамам распрацаваны і перададзены на разгляд ва ўрад Беларусі мерапрыемствы па аказанні дапамогі "Хімвалакну" і "Белшыне".

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**

## Сообщение для печати

**9 апреля с.г. состоялась встреча Чрезвычайного и Полномочного Посла Республики Казахстан в Республике Беларусь В.И.Алесина с ректором Академии управления при президенте Республики Беларусь П.И.Бригадиным.**

Итогом встречи явилось подписание Договора о сотрудничестве между Академией государственной службы при Президенте Республики Казахстан и Академией управления при Президенте Республики Беларусь.

Подписанный документ предусматривает объединение усилий и научно-технического потенциала двух учебных заведений в деле улучшения и совершенствования системы подготовки, переподготовки и повышения квалификации государственных служащих.

**Посольство Республики Казахстан в Республике Беларусь.**

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

## Гамлетаўскае пытанне стаіць перад намі, беларусамі, — зможам мы і далей жыць на гэтай зямлі ці згінем?

## 1. Злаякасны прышч



Фота IREX/ProMedia

Вы не прыкмецілі, колькі свежых крыжоў з'яўляецца на нашых могілках? Ім ужо не хапае адведзеных месц, і яны займаюць суседнія пагоркі.

Свежыя крыжы — горкая прыкмета і сімвал сённяшняй Беларусі. У апошнія гады ў нас назіраецца трагічная тэндэнцыя: не рост насельніцтва, а яго змяншэнне. Выміранне нацыі набыло ўстойлівы характар. У нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці за 2000 год "Беларусь: выбар шляху", падрыхтаванай пры садзейнічанні ААН, зроблены страшны вывад: калі цяперашнія тэндэнцыі захаваюцца, дык ужо ў гэтым стагоддзі на Зямлі не застанецца ніводнага беларуса, наша нацыя знікне, як калісь зніклі хазары, скіфы, сарматы...

Падобнае звычайна здараецца пасля войнаў, буйных прыродных катаклізмаў, эпідэмій. У нас не было ні першага, ні другога, ні трэцяга. Бадай, упершыню ў свеце вымірае нацыя ў мірны, спакойны час. Якая ж зараза да яе прычапілася?

Беднасць. Цяпер мы спажываем малака і мяса ў два разы менш, чым дзесяць гадоў таму, рыбы — толькі трэць. Калі беларус з'ядае за год прыкладна 30 кілаграмаў мяса, дык чэх — 82, амерыканец — 115. Алею ў нас прыпадае на душу насельніцтва на год менш за 2 кілаграмы, а ў Чэхіі — каля 13 кілаграмаў, у ЗША — больш за 24. І так амаль па ўсіх асноўных прадуктах. Да таго ж харчы нашыя няякасныя. Адкуль жа быць здароўю?

А што будзем есці заўтра? Калі кароў у 1995 годзе было 2 мільёны 180 тысяч, дык летась стала 1 мільён 242 тысячы. Свіней адпаведна 4 мільёны 5 тысяч і 2 мільёны 84 тысячы.

І ў такой сітуацыі ўлады накіроўваюць асноўныя сродкі не на развіццё прамысловасці, сельскай гаспадаркі і аховы здароўя, а на ўмацаванне сілавых структур. Так, калі на ўсю прамысловасць, энергетыку і будаўнічы комплекс сёлета выдзелена 35.416.600 тысяч рублёў, дык на сілавыя ведамствы — 446.539.030 тысяч рублёў, ці ў 12 разоў больш.

Хіба жыццё наша палепшыцца ад таго, што дзяржава закупіць сотні новых танкаў і тысячы гумавых дубінак? Вядома — не. Затое высокія асобы могуць пацешыць сваё самалюбства: у іх стала больш дубінак, аўтаматаў — значыць, мацней трымаюць у руках уладу.

У такіх выпадках палітычны дыягназ адзін — страчана пачуццё меры. Гэта страшны дыягназ. У Лукашэнкі цяпер улады столькі, колькі было ў рускіх цароў і турэцкага султана. А яму здаецца, што мала, і ён кідае апошнія сродкі на... умацаванне сваёй улады. І будзе кідаць, бо яго пакінула пачуццё меры.

Такім чынам, у нас галоўная бяда не Чарнобыль, а сённяшняя ўлада, якая стала ўжо злаякасным прышчом на целе грамадства. Таму маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары набываюць гамлетаўскі набат: быць ці не быць? Выберам лепшую ўладу — засвеціцца надзея, застанецца цяперашняя — зямля пакрыецца крыжамі.

Вось яно, галоўнае наша пытанне: "Быць Беларусі ці не быць?" Настаў адказны час. Як сказаў бы Якуб Колас:

*Браты! Вялікая дарога*
*Чакае нас і родны край...*
*Жніво настала, працы многа,*
*Навукі семя засявай.*

Чым жа "засяваюцца" старонкі нашых газет?

Гартаю іх, уключаю тэлевізар. Дзяржаўныя СМІ скуголяць пра затрыманне амерыканскіх шпіёнаў, нядобразычліўцаў з АБСЕ і прафсаюзаў, падрыхтоўку да так званага народнага сходу, чарговага перадвыбарнага шоу...

А як хочацца прачытаць проста пра галоўнае: як нам жыць і што рабіць? Як прывесці да ўлады разумнага чалавека, пад кіраўніцтвам якога зможам нарэшце ўзбіцца на бальшак лепшага жыцця. Не толькі гэта прымусіла ўзяцца за пяро, найперш пісьмы чытачоў. Вось радкі з апошніх.

*"Добры дзень, Іван Пятровіч! Вы калісьці зрабілі грунтоўны аналіз нашага жыцця, сказалі важныя, бясспрэчныя ісціны, паказалі шлях да Беларусі. Восенню 1998 года я пісаў вам, што да Беларусі стала намнога далей, чым тады, калі вы пісалі свае артыкулы "О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!". Мінула больш чым два гады. Дзе зараз знаходзімся мы, беларусы? Ці далёка засталося да Беларусі? Ці дойдзем да яе?*

*Асабіста я не бачу станоўчых перамен, якія б дазвалялі сцвярджаць, што хоць бы беларуская апазіцыя выйшла на шлях, які вядзе да Беларусі. Вось гэта і вымушае мяне яшчэ раз звярнуцца да Вас. Я мяркую, настаў час стварыць каманду па вылучэнні альтэрнатыўнага кандыдата не ад апазіцыі, а ад народа. Мы павінны дайсці да Беларусі... Чакаю адказу па сутнасці.*

*Алесь Крэмень, г. Скідзель".*

Даслаў сваю чарговую творчую прапанову наш даўні аўтар з Барысава А.Шустоўскі. І ён узгадвае тыя артыкулы. Патэлефанавалі з японскага пасольства: іхні сакратар Мічытака Хаторы, прачытаўшы кнігу "О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!", жадае сустрэцца з аўтарам і скарыстаць яго думкі ў сваёй кнізе, якая выходзіць у Краіне ўзыходзячага сонца.

Я не надаў бы столькі ўвагі гэтым допісам, калі б не адна акалічнасць. У сакавіку споўнілася восем гадоў з дня публікацыі артыкулаў "О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!". І той факт, што многія не толькі помняць іх, але і працягваюць да сённяшняга дня пісаць аўтару, аб нечым усё-такі гаворыць.

Найперш, па-мойму, аб тым, што цяпер мы зноў знаходзімся на вельмі адказным рубяжы свайго развіцця. Маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары — гэта, паўтаруся, падзея лёсавызначальная. Перад грамадствам стаіць гамлетаўскае пытанне: быць Беларусі ці не быць? Многія свядомыя людзі чуюць гэта душой і сэрцам. Яны прагнуць цвярозых адказаў на выклік часу.

Многія ж нашы аналітыкі і прагназісты нагадваюць складальнікаў плана развіцця Парыжа. Такі план быў распрацаваны Французскай акадэміяй навук у 1850 годзе на 100 гадоў наперад, да 1950 года. У ім сцвярджалася, што галоўнай праблемай Парыжа ў 1950 годзе стане... вываз конскага гною. Бо горад будзе развівацца, павялічвацца патрэба ў транспарце, значыць, у сотні разоў вырасце колькасць конскіх павозак і гною.

Жыццё моцна пасмяялася над "гнойнымі" прагназістамі, бо яно багацейшае і мудрэйшае. На жаль, некаторыя нашы аналітыкі застаюцца спецыялістамі па "конскім гноі".

Нам патрэбен цяпер не ангажавана-плебейскі погляд на жыццё, не такі "як прынята" і тым больш не "гнойны варыянт", а бескампрамісна-цвярозы аналіз суровай рэальнасці. Свежыя крыжы патрабуюць. Злаякасны прышч падбіраецца да горла.

Я не бяруся рабіць яго сам. На адной з гарадскіх ратуш Бельгіі цудоўныя словы: "Ніхто не ведае так многа, як усе мы разам". Таму давайце, паважаныя чытачы, сумесна падумаем над тым, што мы павінны зрабіць, каб Бацькаўшчына не ператварылася ў суцэльныя могілкі?

Хачу адразу адказаць па сутнасці спадару Крэменю і іншым чытачам на важнае пытанне: "Ці ж далёка нам яшчэ да Беларусі?" На жаль, стала значна далей, чым тады, калі я пісаў згаданыя артыкулы.

Вы можаце сабе ўявіць, каб у Германіі спявалі гітлераўскі гімн, у Берліне стаяў помнік фюрэру, а яго вуліцы насілі імёны Гебельса і іншых? Пра такое там страшна нават заікнуцца. А ў нас усё камуністычнае прысутнічае: і гімн, і сцяг, і помнікі "правадыра", і бальшавіцкія назвы вуліц. Вось чаму ў Германіі прагрэс, а ў нас рэгрэс. Калі галава засмечана мінулым, яна не бачыць будучыні. Ды і браць з мінулага трэба агонь, а не попел.

Мудрацы кажуць: вялікі чалавек ідзе наперадзе свайго часу, разумны — упоравень з ім, а дурны — у адваротным накірунку. Чаму мы ідзём не так, як першы і другі, а так — як трэці?

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*Працяг будзе.*

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# Дело Бубашкина

## Прошло почти два года, как пропал артист Театра-студии киноактера Андрей Бубашкин. Уголовное дело по факту исчезновения возбудили несколько месяцев назад.

### Досье

*Андрей Николаевич Бубашкин. Родился в 1958 году в Лиде, белорус.*

*С конца апреля по 30 мая 1999 года находился на гастролях в Мюнстере по приглашению регионального общества развития культурных связей Германия—Россия—Беларусь.*

*По имеющимся данным, 30 мая Андрей на автомобиле "Honda Civic" выехал из Мюнстера в направлении Франкфурта-на-Одере. Здесь его следы теряются.*

*Почти через год* **российские** *частные детективы нашли машину Бубашкина с официально зарегистрированными российскими номерами в Калининградской области. Новый владелец якобы на совершенно законных основаниях приобрел авто, на котором Бубашкин возвращался домой, через Щецинскую автобазу. Вернуть "Хонду" родственникам Бубашкина невозможно, так как она была приобретена на законных основаниях...*

*О судьбе Бубашкина до сих пор ничего неизвестно.*



"Я хочу знать правду, — говорит тесть артиста художник Владимир Уроднич. — Хочу, чтобы мой внук Никита Бубашкин знал правду о своем отце. Какой бы она ни была.

Никита недавно сказал: "Папа говорил, что ненадолго поедет, а сам все не возвращается..." Как ему объяснить?!

Сейчас они с дочкой в Лиде. У матери Андрея. Ей, наверное, тяжелее всех. У нее трое сыновей. Андрей — самый любимый...

Дочка бегает по разным экстрасенсам. Она хочет верить, что Андрей жив. Что когда-нибудь вернется. Говорит, может, его по голове стукнули и он без памяти где-то бродит? Может, забыл, что у него есть дом, в котором его любят и ждут?

Я не имею права хандрить. Дочку надо поддерживать. И внука растить".

До сих пор неизвестно, где с Бубашкиным случилось несчастье: в Германии или в Польше. По некоторой информации, найден человек, перегонявший машину Бубашкина. Но об Андрее по-прежнему никаких сведений нет.

Почти год назад дело Бубашкина под свой контроль взял председатель комиссии по международным делам и национальной безопасности Совета республики Николай Чергинец. Что с тех пор изменилось? Ровным счетом ничего.

Уголовное дело по факту исчезновения актера возбудили несколько месяцев назад.

"Следователь, который ведет дело Бубашкина, — профессионал высочайшего класса, — говорит Владимир Уроднич. — И у меня нет оснований полагать, что он будет недобросовестно заниматься этим делом.

Я хотел бы обратиться к людям, которые имеют самое непосредственное отношение к культуре. Господа, ваш коллега пропал. Почему вы молчите? Почему вы никуда не обратитесь? На Украине, когда случилась трагедия с журналистом Гонгадзе, почти весь народ поднялся! А у нас многие чиновники от культуры (и не только они) делают вид, что все хорошо. Откуда такое безразличие? Или страх? Но Бубашкин не был политиком. И это дело — не политическое.

Меня возмутила позиция одного высокопоставленного мужа, который заявил: мол, Бубашкин поехал в Германию не по государственной линии, это была приватная поездка, так что вы хотите? Выходит, если бы у артиста Театра-студии киноактера имелась бумажка с гербовой печатью, его конституционные права могли быть соблюдены? Сомневаюсь..."

**Марина КОКТЫШ.**



*Жена Адрея Бубашкина Элеонора и сын Никита. Они по-прежнему ждут...*

# Идите в резервацию

## Право на пикеты в Минске гарантируется... только в трех местах

*Именно к этому сводится суть решения судьи Московского района г.Минска Ю.В.Шестакова по жалобе группы граждан — членов Объединенной гражданской партии (ОГП) на действия Мингорисполкома, который с завидным постоянством отказывал им в праве на выбор места проведения пикетов.*

С августа 1999 года Минская городская организация ОГП подала 102 заявки на проведение пикетов по разным поводам и в разных местах города. По всем из них исполком принудительно изменял место проведения акции и отправлял "пикетовщиков" в одно из трех мест: парк Дружбы народов (в районе площади Бангалор), парк 50-летия Октября или на площадку у цирка Шапито.

Какое-то время заявители дивились такой странной ориентации минских чиновников, а потом прознали, что 17 декабря 1999 года Мингорисполкомом было принято решение №1330 "О местах и порядке проведения массовых мероприятий в г.Минске". И там прописано, куда отсылать тех, кто хочет высказать свое недовольство нынешней властью.

Политически активным гражданам трудно было понять, как можно проводить целевые пикеты в лесных массивах парков, где собираются только любители распить бутылочку-другую или прогуливаются одинокие прохожие. Ну как, скажите, можно проводить в глухом месте пикет с целью привлечь внимание публики к общественной проблеме? Абсурд!

Униженные и оскорбленные "граждане" (члены Объединенной гражданской партии) решили побороться с Минским горисполкомом через суд и заставить чиновников уважать конституционные права и свободы.

Судебная эпопея длилась долго. В конце концов "граждан" выслушали ... при участии прокурора и представителя Мингорисполкома. Судья дал возможность высказаться всем девяти истцам (в таком качестве выступал актив Минской городской организации ОГП) и их представителям (адвокату С.И.Цурко и мне).

Представитель Мингорисполкома сказала, что никто, кроме "граждан", не предъявлял властям претензий по поводу установленных "зон" проведения общественных акций; что власти действуют в соответствии с законом и принятым на его основе решением №1330 и, по большому счету, не запрещают пикеты, а всего лишь переносят место их проведения в специально оборудованные для этих целей места. К тому же "граждане" ни разу не попытались "пикетировать" парк Дружбы народов или цирк Шапито.

Прокурор в своей речи подробно остановилась на доводах сторон и, как следовало ожидать, признала, что решения Мингорисполкома по поданным заявкам на пикеты являются законными и не противоречат статье 35 Конституции.

Точку в "разборках" Минской городской организации ОГП с Мингорисполкомом поставил судья Ю.В.Шестаков. Да, его решение совпало с позицией Мингорисполкома и прокурора. Как и раньше, минчане могут проявлять свое публичное недовольство действиями властей в тех же самых местах-резервациях. Это соответствует смыслу и содержанию законности "по-белорусски": гражданам можно делать только то, что разрешено властями и лишь там, где им укажут.

В таком случае говорить что-то о соблюдении норм международного права, под которыми стоит подпись Беларуси, излишне. Сейчас другая власть, другие условия и другие порядки.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**представитель истцов в судебном процессе.**

МОЯ НИША

# "Собачья" идея депутатов

Оговорюсь сразу. Я люблю домашних животных. Ничего не имею против кошек и собак и их хозяев. Что касается последних, испытываю состояние легкой зависти. Удовольствие от общения с братьями нашими меньшими огромное. Тем не менее, всегда была и остаюсь противницей содержания животных, которые рождены свободными, в неволе: диких — в клетках и вольерах, домашних — в городских квартирах.

"Кошка, которая гуляла сама по себе" (по Киплингу) может гулять лишь в четырех стенах. Котов кастрируют, превращая в жалкое подобие представителей рода кошачьего. Кошек мучают, держа взаперти в то время, когда возникает естественная физиологическая потребность — инстинкт продолжения рода. На улицу нельзя — там можно заразиться от "гуляющих сами по себе" сородичей.

В сравнительно лучшем положении находятся собаки. Два раза в день, утром и вечером, их выгуливают. Все остальное время — все те же четыре стены. В отсутствие хозяев тоску выражают воем и лаем. Нагоняя тоску уже на соседей. Пугаются дети, сатанеют взрослые. Один пес целый день надрывается этажом выше, другой — этажом ниже. Посередине — ниша человека.

О наличии кошек в подъезде (или квартире) можно судить по характерному запаху, когда хозяева забывают вовремя поменять песочек в коробочке. Зажав нос, можно быстро проскочить мимо "фонящих" дверей. Гораздо хуже с "собачьими радостями", подстерегающими людей на улице.

"Выгул собак запрещен!" Грозные предупреждения во дворах, обустроенных под детские площадки, адресованы скорее собакам, а не их владельцам. Но собаки, как известно, читать не умеют. Да и какие запреты, когда "терпеть уже нет больше мочи"? Пулей вылетев из подъезда, прямой наводкой — в песочницу, на клумбу, под кустик... Знакомая всем до боли картина.

Разумеется, есть собачники (хозяева собак), которые выгуливают своих питомцев по нескольку раз в день, не доводя до критической черты. И которые справедливо считают, что детские песочницы, клумбы — не место для выгула собак. Это не только неэстетично, но и негигиенично. Животные, даже домашние, не все привиты, и зачастую являются носителями всевозможных болезней и инфекций, которые передаются и людям. В том числе и детям.

Если зимой снег несколько облагораживает неприглядную картину, то по весне, когда пригревает солнышко и сходит снег, все тайное становится явным. И риск напороться на "собачью радость" — стопроцентный.

Зеленая зона вокруг наших домов настолько загажена, что, кажется, здесь никогда не мела метла дворника. На самом деле это не так, заверили меня в ЖЭСе. А то, что некачественно убирают, то, как говорят в таких случаях, "как нам платят, так мы и работаем". Зарплата дворника составляет тысяч 20—25, в зависимости от размеров закрепленной территории. Да и не считают своей обязанностью собирать собачьи "какашки". Призывают собачников ходить с совками и пакетами, ссылаясь на заграничную практику. Собачники категорически против, это унижает их достоинство.

Остается, похоже, одно. Бить рублем. Не собак, а хозяев. Владельцы собак, те, что зарегистрировали своего любимца в ЖЭСе, получают жировки, в которых есть и такой вид коммунального платежа: за содержание собак. Денежки ЖЭСы перечисляют в исполкомы, в счет местного бюджета. На какие цели? Заместитель главы администрации одного из районов Минска предположил, что на обустройство площадок для выгула собак, которых вообще-то в глаза не видел. Потом отмахнулся: "Не знаю, на что идут. Это идея депутатов...".

**Вера МАТУСЕВИЧ.**

# Война с... деревьями

Власти заявляют, что собираются сделать столицу Беларуси европейским городом. Если "европейскость", с их точки зрения, заключается в том, чтобы одеть город в бетон и гранит, уничтожив зеленый наряд, то в этом, похоже, они преуспевают.

Посмотрите, что делается на улицах, во дворах домов, предприятий? Идет повальное уничтожение деревьев! Под благовидным предлогом рубят и пилят налево и направо. И если бы только то, что отжило свой век, что угрожает своим существованием окружающим. Нет, пилят и здоровые, молодые деревья, ствол которых — как железо! Они еще многие годы поглощали бы пыль и ядовитые газы — выбросы заводов и автомобилей.

Со всей Европы, с автомобильных кладбищ свезли к нам хлам на колесах, который дымит, чадит, отравляет горожан. Деревья — зеленые "легкие" города хотя бы частично нейтрализовали эту отраву. Но какому-то чиновнику пришла в голову мысль о вредности тополей: дескать, из-за этих проклятых тополей начала одолевать людей астма. Уже не раз выступали ученые, что это ошибочное мнение: аллергия у людей не из-за тополей. Но, как говорится, стоит только начать, а уж остановить это "начинание" трудно.

Почин подхватили умники (каких у нас всегда хватало) и даже придумали ему название — "операция тополь". Поддержали и многие газеты, преподнося это одно из самых гнусных дел в истории нашего города чуть ли не как бальзам на душу людей. Давно доказано, что мало есть деревьев, которые бы столько поглощали пыли и ядовитых газов, столько бы выделяли кислорода, как тополя. Но в результате широко разрекламированной операции "тополь" в Минске от тополей остались рожки да ножки. Обрадовались аллергики и астматики: вот теперь заживем без этих "проклятых" деревьев — никакие поликлиники не нужны будут, никакие больницы! Но, как оказалось, они ошиблись: не уменьшилось число астматиков после уничтожения тополей.

Делая несусветные глупости, власти обычно ссылаются на письма трудящихся. Во дворе нашего дома по улице Бирюзова одна заявительница попросила спилить черемуху. Дерево, дескать, затемняет ей окно. Не поинтересовался начальник ЖЭСа, почему темно в квартире той женщины, сколько лет она не мыла окно, сколько лет не стирала шторы... Спилили черемуху, над обрубками которой потом плакали многие. Они садили ее, выхаживали, каждую весну наслаждались ароматом цветов... Теперь они будут "наслаждаться ароматом" радиаторного завода.

Допиливают все, что еще осталось. Другой показалось, что с липы летит тля. Начальник дал команду рабочим с бензопилами, и от дерева остались одни воспоминания. Третья написала, что из-за березы у нее на балконе плохо сохнет белье. Чтобы вырастить дерево, нужны многие годы, а спилить — минуты. То пожелание, как в сказке, также было исполнено без промедления.

**Владимир ШУЛЯКОВСКИЙ.**

